На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою…
Якуб КОЛАС

№242 (1805)
Пятніца, 19 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +3...+5, уначы — -1...+1; у Брэсце ўдзень — +2...+4, уначы — 0...+2; у Гродне ўдзень — +2...+4, уначы — -1...+1; у Віцебску ўдзень — +2...+4, уначы — -1...+1; у Гомелі ўдзень — +2...+4, уначы — +2...+4; у Магілёве ўдзень — +3...+5, уначы — -1...+1.

На працягу сутак па ўсёй краіне — сонечна, без ападкаў.

www.meteo.by



**ПУЛЬС**

## Урад Беларусі плануе аб'явіць першы навагодні тыдзень непрацоўным

Навагоднія святы ў Беларусі, магчыма, афіцыйна працягнуцца з 1 па 7 студзеня. Пра гэта 18 снежня паведаміў, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, віцэ-прэм'ер урада Уладзімір Дражын.

Паводле яго слоў, Савет міністраў разглядае магчымасць пераносу працоўных дзён з 2 студзеня на 10, з 5 на 17 і з 6 на 31 студзеня. Аднак, сказаў віцэ-прэм'ер, канчатковае рашэнне наконт гэтага яшчэ не прынята.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## У Растове-на-Доне — аддзяленне беларускага пасольства

Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Растоўскай вобласцю быў падпісаны па выніках пасяджэння сумеснай рабочай групы, што адбылася 17 снежня ў Растове-на-Доне, паведаміла прэс-служба беларускай дыпламатычнай місіі ў Маскве. У ліку важнейшых пунктаў дакумента — дамоўленасць аб адкрыцці ў Растове-на-Доне аддзялення пасольства Беларусі ў Расіі і стварэнні ў гэтым расійскім рэгіёне беларускага гандлёвага дома.

Дэлегацыю нашай краіны на пасяджэнні двухбаковай рабочай групы ўзначаліў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Грыгор'еў. У яе склад увайшлі таксама прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў і прамысловасці, канцэрна "Белдзяржхарчпрам", шэрагу беларускіх прадпрыемстваў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

***Васіль ШАРАНГОВІЧ,***
***народны мастак Беларусі:***

## «У краіне з'яўляюцца мецэнаты»

У Мінску ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава шырока вядомых у краіне і за яе межамі сучасных беларускіх мастакоў "Дванаццаць".

У экспазіцыі прадстаўлены творы Сяргея Войчанкі і Уладзіміра Цэслера, Аляксандра Барташэвіча, Руслана Вашкевіча, Уладзіміра Ганчарука, Аляксандра Дзямідава, Рыгора Іванова, Аляксандра Ксяндзова, Зоі Літвінавай, Зоі Луцэвіч, Андрэя Радзівонава і Аляксандра Родзіна.

Выступаючы на яго адкрыцці, дырэктар музея, народны мастак Беларусі **Васіль ШАРАНГОВІЧ** зазначыў, што ў экспазіцыі прадстаўлены жывапіс таленавітых майстроў. "Вельмі важна, што ў краіне сталі выходзіць элітныя календары, што папулярызуюць айчыннае мастацтва, якое гэтага заслугоўвае. Дзяржава не можа выдаць падобны каляндар, і мне вельмі прыемна, што ў краіне з'яўляюцца мецэнаты, здольныя падтрымаць нацыянальную культуру", — сказаў В.Шаранговіч.

Ён выказаў спадзяванне, што з цягам часу ў краіне з'явяцца ўласныя Марозавы і Траццяковы, якія змогуць матэрыяльна падтрымаць мастакоў і іх творчасць.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Калядуем па-беларуску!



Дарагія суайчыннікі!

Сакратарыят ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" віншуе Вас з Калядамі і Новым годам і зычыць шчодрых святочных дзён.

Калядныя святы праводзіліся нашымі продкамі на нашай мове. Давайце ж адзначым іх гэтак жа, як атрымалі ў спадчыну, — разам, на роднай мове, шчыра, па-беларуску.

Набудзем беларускамоўныя паштоўкі, маркі, канверты, загадзя павіншуем сваіх сяброў і знаёмых, каханых і родных — бацькоў і дзяцей, бабуль, дзядуль і ўнукаў. Хай беларускае мілагучнае слова дойдзе да сэрца ўсіх жыхароў Беларусі.

Заспяваем разам нашы спрадвечныя калядныя песні, выйдзем з імі на вуліцы і плошчы, зойдзем да суседзяў і сваякоў. Хай калядныя мяхі напаўняюцца каўбасой і паляндвіцай, цукеркамі і арэхамі, печывам і адмыслова гатаванымі хатнімі прысмакамі.

Калі ў калядныя і навагоднія вечары беларускае слова будзе ў нашай хаце гаспадаром, а не госцем, то Новы 2004 год яшчэ больш паспрыяе нам у справе нашага Адраджэння.

**Сакратарыят**
**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".**

## У следчага «зазелянелі» рукі

У Жлобіне пры атрыманні хабару супрацоўнікі дзяржбяспекі арыштавалі старшага следчага абласнога ўпраўлення следчага камітэта Міністэрства ўнутраных спраў Андрэя Парашчанку.

Наколькі вядома, хабар ў памеры 7,5 тысячы долараў следчы атрымліваў за спыненне крымінальнай справы аб кватэрных крадзяжах.

Узбуджана крымінальная справа паводле артыкулу 430 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь — атрыманне хабару.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ.**

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

***Хрыстос ПУРГУРЫДЭС:***

# «На высокім дзяржаўным узроўні былі зроблены актыўныя крокі, каб схаваць сапраўдную падаплёку знікненняў...»

*15 снежня на пасяджэнні юрыдычнага камітэта ПАСЕ ў Парыжы спецыяльны дакладчык палітычнага камітэта ПАСЕ* **Хрыстос Пургурыдэс** *прадставіў справаздачу па гучных справах аб знікненні вядомых людзей на Беларусі.*

Хрыстос Пургурыдэс адзначыў, што ён не праводзіў самастойнае расследаванне спраў **Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага.**

***"Мэтай майго візіту было толькі вывучыць цалкам аб'ектыўным шляхам, ці праводзілася належнае расследаванне знікненняў кампетэнтнымі беларускімі ўладамі",*** — напісаў Пургурыдэс. ***— Размовы, якія я правёў у Мінску, прымусілі мяне лічыць, што на высокім дзяржаўным узроўні былі зроблены актыўныя крокі, каб схаваць сапраўдную падаплёку знікненняў, і падазраваць, што найвышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі могуць самі быць уцягнуты ў гэтыя знікненні".***

Як паведамляе "Радыё Свабода", папярэднія высновы Пургурыдэса заснаваны на наступнай інфармацыі: выдача расстрэльнага пісталета СІЗА №1 у дні знікненняў Захаранкі, Ганчара і Красоўскага, пісьмовыя заявы генерала **Лапаціка** і паказанні палкоўніка **Алкаева**, арышт і хуткае вызваленне камандзіра САХРа **Паўлічэнкі**, паведамленне пра ліст экс-генпракурора **Бажэлкі** расійскаму генпракурору з просьбай даслаць спецыяльнае абсталяванне для пошуку трупаў і іншае.

З гэтай нагоды Хрыстос Пургурыдэс прапаноўвае Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы наступныя варыянты дзеянняў:

***"— патрабаваць, каб незалежнае расследаванне было распачата кампетэнтнымі беларускімі ўладамі пасля адстаўкі цяперашняга генпракурора, якога падазраюць у тым, што ён сам арганізаваў знікненні на сваёй папярэдняй пасадзе;***

***— патрабаваць, каб беларускімі ўладамі было распачата крымінальнае расследаванне з мэтай высветліць магчымую датычнасць да знікненняў цяперашняга генпракурора, цяперашняга міністра спорту (былога міністра ўнутраных спраў) і высокапастаўленага афіцэра спецыяльных сіл, магчымае злачынства перашкоджання ажыццяўленню правасуддзя, учыненае некаторымі іншымі высокапастаўленымі чыноўнікамі, якія мелі дачыненне да расследавання, праведзенага дагэтуль, і якія фальшывілі, прыхоўвалі або прыціскалі сведчанні, якія былі ў іх распараджэнні, дзеля таго каб абараніць сапраўдных злачынцаў,***

***— заклікаць парламент Беларусі патрабаваць адстаўкі некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў, дзеля таго каб зрабіць магчымым сапраўды незалежнае расследаванне, і стварыць парламенцкую камісію ў справе расследавання з адпаведнымі рэсурсамі для гэтага;***

***— заклікаць дзяржавы-сябры Рады Еўропы ды ўвогуле міжнародную супольнасць ажыццявіць максімум палітычнага ціску на цяперашняе кіраўніцтва Беларусі, у тым ліку праз санкцыі, да таго часу, пакуль не будзе праведзена вартае даверу незалежнае расследаванне мажлівай датычнасці высокапастаўленых чыноўнікаў да знікненняў або да іх хавання;***

***— запрасіць суды тых краін, чые законы прадугледжваюць міжнародную юрысдыкцыю іх нацыянальных судоў для спраў сур'ёзных парушэнняў правоў чалавека, распачаць працэдуры супраць некаторых высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў за магчымае забойства паводле палітычных прычын...".***

**Марына КОКТЫШ.**

***Аляксандр РАБАТАЙ,***
*першы намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі:*

## «Нам патрэбны іншы лідэр, з якім мы маглі б выконваць задачы, што ставілі перад сабой...»

*20 снежня ў Мінску па ініцыятыве небезвядомага С.Гайдукевіча магчыма пройдзе пазачарговы з'езд Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП).*

17 снежня група прадстаўнікоў ЛДП правяла прэс-канферэнцыю, на якой абвінаваціла кіраўніка партыі **Сяргея ГАЙДУКЕВІЧА** ў парушэнні партыйнага статута пры скліканні маючага адбыцца з'езда. Так, на думку першага намесніка старшыні ЛДП **Аляксандра РАБАТАЯ**, плануемае мерапрыемства не можа лічыцца легітымным, паколькі ў лік дэлегатаў з'езда не ўключаны прадстаўнікі партыйных структур, якія падтрымліваюць правядзенне рэформ у ЛДП.

Як лічыць А.Рабатай, Сяргей Гайдукевіч узурпіраваў уладу ў партыі і на працягу апошніх гадоў не ўзгадняў свае рашэнні з меркаваннем рэгіянальных партыйных структур. Тым самым, паводле яго слоў, С.Гайдукевіч ператварыў ЛДП "у арганізацыю, што працуе на яго ўласную ініцыятыву". "Нам патрэбны іншы лідэр, з якім мы маглі б выконваць задачы, што ставілі перад сабой", — сказаў Рабатай.

Нагадаем, што канфлікт у кіраўніцтве ЛДП узнік на пазачарговым з'ездзе 6 верасня. Тады трое з шасці членаў Вышэйшага савета ЛДП — Алег Маркевіч, Аляксандр Рабатай і Андрэй Курс, — а таксама рэгіянальныя структуры партыі, выказалі вотум недаверу Гайдукевічу. З'езд завяршыўся скандалам, у выніку якога Сяргей Гайдукевіч са сваімі нешматлікімі прыхільнікамі пакінуў залу пасяджэнняў. Астатнія дэлегаты перавыбралі Вышэйшы савет партыі, не ўключыўшы ў яго Гайдукевіча. Аднак праз два тыдні Міністэрства юстыцыі аб'явіла аб непрызнанні вынікаў гэтага з'езда.

На думку А.Рабатая, партыйны форум, які можа прайсці 20 снежня, таксама не можа быць прызнаны Мінюстам з-за дапушчаных парушэнняў статута. У выпадку яго прызнання міністэрствам праціўнікі Гайдукевіча гатовы звярнуцца ў суд. Калі ж і судовая інстанцыя не падтрымае іх, апаненты С.Гайдукевіча, якіх, паводле слоў намесніка старшыні ЛДП Алега Маркевіча, налічваецца больш за сем тысяч, гатовы стварыць новую палітычную структуру. "Гэтыя людзі не пойдуць з палітыкі. Яны трансфармуюцца ў новую палітычную структуру", — заявіў палітык.

Паводле слоў Маркевіча, ва ўнутрыпартыйнай апазіцыі ўжо ёсць новая кандыдатура на пасаду лідэра ЛДП, аднак аб ёй будзе паведамлена на з'ездзе, які пройдзе "ў поўнай адпаведнасці са статутам партыі".

**Юрый ПАЦЁМКІН,**
**БелаПАН.**

***Владимир ПУТИН***
*президент России:*

## Нужно делать то, на что готов наш партнер

Вчера прошла традиционная всероссийская пресс-конференция президента Владимира Путина, в ходе которой он отвечал на вопросы россиян. Ее трансляция велась по всем федеральным телеканалам. В ее ходе был задан вопрос и об объединении России и Беларуси. Вот фрагмент пресс-конференции.

Представитель белорусского землячества в Вологде Олег Кучко:

**— Не передумали ли Вы объединяться с Белоруссией?**

Владимир Путин:

— Нет, конечно. У нас есть определенные планы, но есть и сложности. Вы наверняка следили за этим. Когда-то нам было сказано, что Белоруссия готова идти так далеко, как захочет Россия. Мы были готовы объединиться, выбрать союзное руководство. Однако мы тут же услышали реакцию, что такой способ кардинального объединения неприемлем.

Я не считаю себя вправе настаивать. Нужно делать то, на что готов наш партнер. Бессмысленно навязывать что-то. У нас планы объединения по валюте — это должен быть рубль. Но, по всей видимости, вряд ли мы решим эту проблему в срок. Хотя наши банки уже договорились. Но это тоже политическое решение. Мы будем действовать по тем направлениям, по которым сможем договориться. Но намерение идти по пути интеграции есть, и оно сохранилось и у нас, и у Белоруссии.

**ПАМЯЦЬ?**

## У Гродне не будзе вуліцы Быкава?

*Мясцовыя ўлады не лічаць патрэбным перайменаваць бульвар Ленінскага камсамола альбо вуліцу Свярдлова ў бульвар Быкава. Нічога канкрэтнага яны не кажуць і пра назвы новых вуліц горада, дзе, між іншым, Народны пісьменнік Беларусі пражыў 24 гады.*

Як ужо паведамляла "Народная воля", у кастрычніку прадстаўнікі гарадской інтэлігенцыі Гродна звярнуліся ў гарвыканкам з прапановамі наконт ушанавання памяці Васіля Быкава. Была прадстаўлена цэлая праграма. Акрамя перайменавання вуліцы, было прапанавана адкрыццё музея, а таксама пабудова помніка Васілю Быкаву.

І вось ініцыятыўная група атрымала адказ. Адмоўны.

У інтэрв'ю Радыё "Свабода" дэпутат гарсавета **Сяргей Антусевіч**, які ў свой час перадаў гэтыя прапановы ў гарвыканкам, паведаміў, што адказ напісаў асабіста намеснік старшыні выканкама **Валянцін Лявонаў**. На думку Антусевіча, гэты адказ — фармальная адпіска. У ёй гаворыцца, што раней дэпутаты гарсавета вырашылі прыпыніць перайменаванне вуліц, а новыя назвы надаваць толькі новым вуліцам. Акрамя таго, Валянцін Лявонаў спасылаецца на тое, што яшчэ ўлетку гарвыканкам прыняў рашэнне ўсталяваць у горадзе мемарыяльную шыльду, прысвечаную Васілю Быкаву. Маўляў, гэтага дастаткова.

Праўда, Сяргей Антусевіч мяркуе, што справу можна выправіць. Яшчэ не сказаў сваё слова гарсавет. *"Таму я буду настойваць на тым, каб рашэнне было прынята - ці прэзідыумам, ці на сесіі гарадскога савета. Я лічу, што праграма па ўшанаванні памяці Васіля Быкава павінна быць адлюстравана ў праграме "Спадчына"*, — заявіў Сяргей Антусевіч.

Дарэчы, адмоўны адказ ад мясцовых улад атрымалі і прадстаўнікі Віцебскай абласной рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", якія звярталіся з прапановай назваць адну з вуліц Віцебска імем Васіля Быкава, а таксама пабудаваць у горадзе помнік пісьменніку. У сваім адказе, падпісаным намеснікам старшыні гарвыканкама **Аленскай**, мясцовыя ўлады спасылаюцца на пастанову Саўміна, дзе сцвярджаецца, што помнікі знакамітым асобам ствараюцца на падставе рашэння Савета міністраў Беларусі. І таксама запэўніваюць, што пытанне аб наданні адной з віцебскіх вуліц імя Быкава будзе разглядацца на гарадской тапанімічнай камісіі.

Вядома, што прадстаўнікі Віцебскай абласной рады ГА "ТБМ" таксама прапанавалі назваць абласную бібліятэку-"ленінку" імем Быкава. Нягледзячы на тое, што ва Упраўленні культуры Віцебскага аблвыканкама сказалі, што пытанне можа быць вырашана на карысць Быкава, бібліятэка тым не менш усё яшчэ застаецца "ленінскай".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**ЗДАРЭННІ**

## Васіля Стражава моцна збілі

***Злачынцы напалі на рэктара БДУ каля яго дома.***

Вечарам 17 снежня Васіль Стражаў быў запрошаны на прыём у рэстаран "Панарама", які ладзіла польская амбасада з нагоды навагодніх і калядных святаў. Васіль Іванавіч быў у добрым настроі і большую частку вечара правёў у кампаніі сваіх калег. У прыватнасці, ён цесна кантактаваў з рэктарам Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Аркадзем Русецкім.

Пасля фуршэту Стражаў накіраваўся дадому. Як кажа ён сам, выйшаў са службовай машыны за некалькі метраў перад домам, каб падыхаць свежым паветрам. Калі да пад'езда заставалася метраў пяцьдзесят, да яго падышоў здаровы малады чалавек і папрасіў закурыць. У гэты момант Стражаў адчуў моцны ўдар ззаду. Рэктара БДУ збівалі нагамі. *"Але я не ўступаў ім, вадзіцельскае пасведчанне, пашпарт і грошы злачынцам забраць не ўдалося, мабільны тэлефон я паспеў адкінуць убок"*, — расказаў Васіль Стражаў.

Рэктара БДУ моцна збілі, Васілю Іванавічу прыйшлося звярнуцца па медыцынскую дапамогу. Яму выдалі бальнічны ліст, і ўчора ён не выйшаў на працу.

Акрамя таго, у Стражава знялі пабоі, узбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 206 Крымінальнага кодэксу (рабаванне).

Як вядома, Васіль Стражаў быў прызначаны рэктарам БДУ 17 лістапада. Яго папярэднік Аляксандр Казулін вызвалены ад гэтай пасады ўказам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

Ва універсітэце кажуць, што гэты выпадак — звычайнае здарэнне, якое, на жаль, у Мінску не рэдкасць. Сам Васіль Іванавіч заўважыў: *"Я хачу думаць, што гэта было выпадкова"*.

Стражаў не ведае, калі выйдзе на працу. *"Я працую дома,* — гаворыць ён, — *мне дамоў прывозяць дакументы, афіцыйныя паперы. Напэўна, прыйдзецца купляць чорныя акуляры, каб у панядзелак выйсці на працу"*.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

# У Мінску прадаюць будынак іракскай амбасады

*Незавершаны аб'ект выстаўлены на продаж. За яго просяць 1,5—1,7 мільёна долараў.*

Патэнцыяльныя пакупнікі ёсць, бо будынак агульнай плошчай амаль 2,5 тысячы квадратных метраў з падземнымі гаражамі на 6 машын размешчаны ў самым цэнтры Мінска.

Яшчэ сёлета ў маі на Шпалернай вуліцы ў Мінску інтэнсіўна працавала будаўнічая тэхніка, будтрэст "Тэхнахімбуд" хуткімі тэмпамі ўзводзіў трохпавярховы будынак ва ўсходнім стылі, дзе мелася размясціцца амбасада Ірака. Пад яе было адведзена каля 20 сотак у адным з самых прэстыжных раёнаў Мінска. Меркавалася, што да канца года будаўнікі скончаць работы і перададуць памяшканні дыпламатам. Былы амбасадар Ірака ў Мінску **Салман ЗЕЙДАН** па некалькі разоў на тыдзень з'яўляўся на будоўлі, кантраляваў працу. Апошнія грошы афіцыйным заказчыкам будаўніцтва фірмай "Белметалэнерга" былі пералічаны будаўнікам ужо пасля падзення рэжыму Садама Хусейна, у чэрвені.

Цяпер Салман Зейдан пакінуў Беларусь, накіраваўшыся ў адну з арабскіх краін. Стары будынак амбасады, які яна арандавала побач з Арлоўскай вуліцай, зачынены і бязлюдны, іракскі сцяг з яго зняты. Будоўля на вуліцы Шпалернай замарожаная на стадыі ўзведзеных сцен, перакрыццяў і даху, вокнаў у будынку яшчэ няма. Знікла і шыльда, на якой будаўнікі звычайна пазначаюць назву аб'екта і тэрмін яго здачы. Шанцаў на выкарыстанне будынка, паводле ранейшага праекта, няма, і заказчык будаўніцтва "Белметалэнерга" вырашыў выставіць незавершаную амбасаду на продаж. Гаворыць прадстаўнік заказчыка **Леанід ІЛЮШЧЫЦ**:

"У нас ёсць два варыянты: альбо мы прадаём будынак у такім выглядзе, як ёсць, дамаўляючыся пра цану, альбо мы дабудоўваем яго, а потым зноў жа выстаўляем на продаж, альбо пакідаем сабе. Але пакуль мы вырашылі прадаць. Прапановы ёсць — падыходзяць, глядзяць, цікавяцца".

Леанід Ілюшчыц паведаміў, што завяршаць будаўніцтва паводле раней зацверджанага праекта няма сэнсу, бо будучаму пакупніку можа не спадабацца, напрыклад, тое ж архітэктурнае аздабленне ва ўсходнім стылі. А на гэтай стадыі яшчэ можна адкарэкціраваць праект.

Заказчык хоча прадаць будынак за 1 мільён 700 тысяч долараў, але можа пагадзіцца і на паўтара — трэба таргавацца, заяўкі ўжо паступаюць.

Фірма "Белметалэнерга" вядомая сваёй актыўнай працай на іракскім рынку да вайны, яна пастаўляла ў Ірак беларускую аўтамабільную і іншую тэхніку. Цяпер гэтыя кантракты спынены.

Раней Беларусь мела тавараабарот з Іракам у рамках праграмы "Нафта ў абмен на харчаванне" памерам каля 30 мільёнаў долараў. Прамых матэрыяльных страт ад змены рэжыму ў Багдадзе для беларускіх кампаній няма, бо ўсе беларускія пастаўкі былі аплачаны. Як паведамілі ў МЗС Беларусі, ніякіх магчымасцяў і намераў для аднаўлення ранейшых паставак з Беларусі ў Ірак няма - прынамсі, да стварэння новага легітымнага іракскага ўрада. Амерыканцы ж запрашаць Беларусь да аднаўлення гарадоў Ірака не збіраюцца.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
*Радыё "Свабода".*

**ДИСКУССИЯ**

# Особенности белорусского либерализма

Читатели "Народной воли" знают, что нынешней осенью белорусскому народу был предложен альтернативный бюджет, разработанный группой под руководством заместителя председателя Объединенной гражданской партии Я.Романчука. Данный документ группа назвала народным, "потому что при его принятии гораздо большую часть экономических решений будет принимать простой человек, распоряжаясь **своими деньгами,** а не чиновник, который перекладывает из одного кармана в другой **чужие деньги"**. В идеологическую основу бюджета положена концепция частной собственности и индивидуализма.

В дискуссию с разработчиками альтернативного варианта бюджета вступил депутат Верховного Совета XII созыва В.Малашко. На протяжении пяти лет он работал в Комиссии по экономической реформе, в Контрольной палате, выступал на сессии парламента с докладом об альтернативном бюджете от фракции социал-демократов, имеет диплом аудитора и стаж практической работы в реальном бизнесе. В своей статье "Иллюзия либеральной перспективы" ("НВ" 25.11) В.Малашко высказал ряд замечаний к предлагаемому "народному" бюджету и указал на некоторые противоречия и негативные последствия применения либеральной политики в Беларуси. В ответ он получил многостраничную отповедь с характерным заголовком — "Пока кухарка будет учиться управлять экономикой, в стране закончится еда".

Возмущен Я.Романчук и тем, что "в уважаемых кругах Запада и Востока В.Малашко не замечен, чтобы видеть экономическую суть за красотой соборов и чистотой ресторанов" и "сослаться на опыт своей партии также не может", и, наконец, Малашко, "как и его начальнику, главное — навесить ярлык, наполнить его страшным для избирателя содержанием, выстроить броскую линию нападения на политических оппонентов и обвинить во всех смертных экономических и моральных грехах" и т.д. Далее, объяснив, что В.Малашко в одном лице "антисоциальный социал-демократ, новый "кормчий" от БСДП, ученик Маркса и Ленина под флагом БСДП" Я.Романчук в конце статьи делает такой вывод: "Да, есть еще большое количество людей разных специальностей, которые абсолютно уверены, что прекрасно разбираются в экономике. Давать им власть в руки себе дороже".

Уважаемый Ярослав Чеславович, предположу, что разработанный вашей группой альтернативный бюджет следует рассматривать как научный продукт. Виталий Малашко написал рецензию на него. Рецензия получилась не комплиментарная. Ну и что? Это нормальная практика. Возможно, и в будущем Вашу работу будут критиковать, и не только специалист, а простой человек, который, по-Вашему, будет принимать "большую часть экономических решений". Поэтому постарайтесь владеть культурой полемики вообще и научной дискуссией в частности.

И еще. Малашко даже не назвал предложенный бюджет фантазией. Хотя авторы народного бюджета предлагают взять основные налоги в розничном обороте, то есть в сфере наличного обращения. А ведь любой, хоть как-то столкнувшийся с реальной экономикой человек знает, что собрать серьезные налоги в этой сфере невозможно. "Челнок" не отдаст свои 20% выручки. Сетевой маркетинг, не знающий, что такое налоги, естественно, получит бурное развитие. Откройте рекламные газеты и посмотрите - они пестрят объявлениями о новой мебели, бытовой аппаратуре и других товарах с доставкой на дом. Естественно, бухгалтерская отчетность эти сделки не фиксирует. Более того, большинство серой торговли вообще обслуживается иностранной валютой. Не помогут и кассовые аппараты с фискальной памятью. Изменить ее данные не составляет проблемы. Значит, не удастся собрать намечаемую сумму с розничного товарооборота. И не будет повышения пенсий, зарплат в госбюджете, пособий по безработице. Возможно, в будущем, когда все наличные деньги будут заменены электронными карточками, народный бюджет имел бы право на принятие, но не сейчас. Подумайте над этим.

**С уважением —**

**Александр АРЕСТОВИЧ,**
**доцент БНТУ,**
**первый заместитель председателя БСДП (НГ).**



*Вясковая веласіпедыстка.*

Фота ByMedia.net

ПУЛЬС

## «Белнафтахім» накіраваны на Латвію

Канцэрн "Белнафтахім" мае намер стварыць у Латвіі таваправодную сетку па рэалізацыі прадукцыі сваіх арганізацый.

Як паведаміў саветнік прэзідэнта канцэрна "Белнафтахім" **Віктар АЗАРАЎ,** зараз у Латвіі дзейнічае нядаўна адкрытае прадстаўніцтва канцэрна.

Паводле яго слоў, у найбліжэйшы час у Латвіі "Белнафтахімам" таксама будзе створана таварыства з абмежаванай адказнасцю. У яго мэты ўвойдзе вывучэнне патрэбы латвійскага рынку ў прадукцыі канцэрна і наступнае стварэнне тавараправоднай сеткі арганізацый "Белнафтахіма", калі гэта будзе мэтазгодна, адзначыў В.Азараў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## ...А Дзяржаўны мытны камітэт калекцыяніруе «калекцыянераў»

На мытні "Мінск-2", у зоне дзейнасці якой знаходзіцца Нацыянальны аэрапорт "Мінск", у грамадзяніна Лівана — студэнта адной з беларускіх ВНУ — было канфіскавана 40 кішэнных гадзіннікаў 20-40-х гадоў выпуску і 4 старадаўніх фотаапараты 20-30-х гадоў выпуску мінулага стагоддзя. Паводле інфармацыі мытнікаў, сярод кішэнных гадзіннікаў з ланцужком было і некалькі наручных гадзіннікаў фірмы Паўла Бурэ. Паводле заключэння, гадзіннікі і фотаапараты ўяўляюць цікавасць для калекцыі музейных фондаў.

У прэс-службе ДМК адзначылі, што падобныя рэчы з'яўляюцца абмежаванымі да перамяшчэння, для іх вывазу неабходна пісьмовае дэкларaванне і наяўнасць пасведчання Дэпартамента гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Беларусі. Як прызнаўся ліванскі студэнт, гадзіннікі і фотаапараты ён купіў на адным з мінскіх рынкаў. Аднак, як нагадваюць мытнікі, няведанне закона не вызваляе ад адказнасці. Акрамя канфіскацыі тавару студэнт павінен заплаціць штраф.

**Аляксей АРЭШКА.**

## 70 тысяч елак ад лясгасаў Мінскай вобласці

Галоўны ляснічы Мінскага лесагаспадарчага аб'яднання Валянцін Кошаль кажа, што гэта цалкам забяспечыць патрэбы жыхароў Мінска і вобласці, якія ў мінулым сезоне набылі 68 тысяч елак. Акрамя продажу, некалькі тысяч елак будуць бясплатна перададзены ў дзіцячыя садкі, школы і іншыя сацыяльныя ўстановы вобласці.

Паводле інфармацыі галоўнага інжынера аб'яднання Уладзіміра Сіманава, у Мінску лясгасы будуць рэалізоўваць елкі на 18 ёлачных базарах. Яны пачнуць працу 23 снежня. Кошт елак у рознічным гандлі будзе ад 5,6 тысячы да 12 тысяч рублёў у залежнасці ад вышыні. Сіманаў таксама адзначыў, што сёлета актывізаваўся экспарт беларускіх елак. Напрыклад, адным толькі Вілейскім лясгасам была адгружана тысяча елак у Расію і паўтары тысячы — у Арменію.

Сталічны гандаль таксама прапаноўвае елкі ў кадках — блакітныя, польскай вытворчасці, коштам 106-166 тысяч рублёў, і елкі вытворчасці беларускай эксперыментальнай фермерскай гаспадаркі "Калядны лес", таксама блакітныя, коштам ад 100 тысяч рублёў.

## Паўлаў праінспекціруе сталічныя ёлкі

Сёлета для афармлення Мінска да навагодніх святаў былі закуплены тры светладынамічныя ўстаноўкі пражэктарнага тыпу са зменлівым святлом. Яны прызначаны для падсветкі асобных будынкаў з рухам праменя на 180 градусаў.

Акрамя таго, у Мінску ўпершыню ўстаноўлены светлавыя пальмы вышынёй 4 і 5 метраў: дзве на плошчы Свабоды і дзве — на праспекце Машэрава.

Мінск таксама ўпрыгожаны пры дапамозе навагодніх тэкставых і светлавых тэматычных кампазіцый, у тым ліку светлавых "фантанаў", устаноўленых на апорах вонкавага асвятлення на Кастрычніцкай плошчы, праспекце Машэрава і плошчы Незалежнасці. Ілюмінацыя на галоўнай ёлцы сталіцы, перад Палацам Рэспублікі, складаецца з 25 тысяч лямпачак і кіруецца аўтаматычнай праграмай. Як і летась, над ёлкай будзе зманціравана зорнае неба з месяцам і промнямі святла, якія круцяцца.

22-23 снежня адбудзецца пробнае ўключэнне ўсёй ілюмінацыі Мінска і аб'езд гарадскіх ёлак старшынёй Мінгарвыканкама Міхаілам Паўлавым.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Дранько-Майсюк піша пра каханне



Прэзентацыя зборніка выбраных твораў вядомага беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка "Вершы. Каханне. Проза" адбылася ў Мінску. Зборнік выдадзены сталічным выдавецтвам "Харвест" накладам 1,5 тыс. асобнікаў.

Як зазначыў Л.Дранько-Майсюк, кніга прысвечана вядомаму беларускаму паэту Уладзіміру Жылцы, які дзякуючы бліскучай адукацыі і веданню шэрагу еўрапейскіх моў змог азнаёміць беларускага чытача з класікай сусветнай паэзіі. "Ён марыў выдаць кнігу, поўнасцю прысвечаную тэме кахання. Аднак быў арыштаваны ў 1930 годзе, а праз тры гады загінуў на Поўначы ў лагерах ГУЛАГу. У нейкай ступені я паспрабаваў ажыццявіць яго мару", — сказаў паэт.

"Святочны настрой стварае для мяне беларуская літаратура 20-х гадоў перыяду беларусізацыі і карэнізацыі. Аповесці Якуба Коласа, творы Андрэя Мрыя і Лукаша Калюгі не саступаюць творчасці найвыдатных майстроў сусветнай паэзіі", — сказаў паэт.

Л.Дранько-Майсюк паведаміў, што падрыхтаваў да выдання чатыры кнігі, у тым ліку "мінскі раман" пра вельмі багатую жанчыну, якая "не можа зразумець, што каханне і жыццё заўсёды супрацьстаяць адзін аднаму і ніколі не супадаюць".

**Марат ГАРАВЫ.**

АНТИРЕКЛАМА

# О зимних сапожках и женских страданиях

Уже никого не удивишь обилием всевозможных магазинов в столице с иностранными названиями, перевод которых и смысл порой не знают даже сами владельцы. Сегодня я хочу поделиться впечатлениями о разрекламированной сети магазинов AXIS, окутавших город тонкой металлической паутиной.

На первый взгляд кажется, что если владельцы взяли за основу слово "AXIS", что в переводе означает "ось", то вокруг нее, оси, должно вращаться много покупателей и все должны быть довольны сервисом.

Поддавшись первому впечатлению, я решила также заглянуть в AXIS, что на Партизанском проспекте, 87. И не просто поглазеть, а купить зимние сапожки.

Решение мое созрело по двум причинам. Во-первых, цена приемлемая (забыла народную мудрость, что скупой платит дважды), а во-вторых, все-таки кожа и мех натуральные. Опять же упустила из вида известное изречение: ведь и из шелка шьют не только роскошные платья, но и плети плетут. Словом, если к натуральной коже применить "современные технологии", то такие изделия будет трудно обувью назвать.

Сапожки приобрела заблаговременно, 6 ноября, и спокойно стала ждать зиму. Это, конечно, не зимняя резина для "Мерседеса", но для пешехода вещь немаловажная.

Снег не заставил себя долго ждать и порадовал нас на выходные 6, 7 декабря, а 8 декабря я обула свои новые сапожки. Но мое радужное настроение растаяло также быстро, как тает в теплую погоду снег. Я еще и до работы не доехала, а молния на сапоге уже разошлась. Вспоминаю тот рабочий день с чувством пережитого стыда и унижения, ведь приходилось прятать свои ноги от взоров студентов, и хотя в этот день на лекции по уравнениям математической физики я рассказывала о распространении тепла в тонком стержне, но не могла же я на примере своих злосчастных сапог объяснять студентам, что если стержень изготовлен из низкопробных сплавов, то его и нагревать не надо, он запросто согнется.

Коллеги утешали, что все права на моей стороне. И чек у меня сохранился, и гарантийный срок не закончился — сапоги поменяют. Как они заблуждались! Пока я добиралась домой с целью переобуться в старые осенние, в снегу потерялась набойка со второго сапога, "ось" продолжала гнуться по моим представлениям. Но как только я попала в магазин, то вот тут и поняла глубокий смысл незамысловатого слова "AXIS", вот теперь "ось" пришла в движение, только руководство магазина плавно раскачивалось вокруг нее в своих креслах, получая удовольствие как на знаменитом колесе обозрения в Лондоне, а я вертелась как на сломанных качелях без поручней и сидений, которые стоят в наших дворах.

Оказалось, что на молнии и набойки гарантия не распространяется, сапоги сами по себе, а молнии и набойки существуют не зависимо от них. Полагаю, что только чтобы сохранить ось симметрии, не было приписано, что гарантия распространяется на правый сапог, но не распространяется на левый, что было бы вполне логично.

Мне предложили сделать ремонт. Я вначале согласилась, но, подумав, что при ремонте будут применены все те же "инновационные технологии" написала заявление на проведение экспертизы. На мою просьбу ускорить процесс (как-никак на дворе декабрь) мне грубо ответили: "Можно подумать, что у вас больше нечего обуть, носили же вы что-то в прошлом сезоне".

Носила что-то, как ни странно, и десять лет назад, и двадцать, но не могу вспомнить, что, но их бы, думаю, не смутило, если бы я приехала в домашних тапочках — слишком низкого полета я птица для этих орлиц, если учесть, что бальзаковский возраст я уже пережила. Но заявление мне пришлось писать стоя, в этом роскошном салоне не нашлось места, где бы мне можно было бы присесть.

На том и разошлись, мне сказали позвонить в конце недели и узнать результат. И я терпеливо ждала конца недели, стараясь не обращать внимания на то, что столбик термометра все чаще опускался ниже нуля.

В пятницу позвонила, и мне сообщили, что "независимыми" экспертами мне отказано. На мой вопрос, могу ли я получить этот отказ от компетентных людей в письменном виде, сообщили, что за это надо заплатить еще 10 тысяч рублей. Платить отказалась и предупредила, что приеду за сапогами, чтобы продолжить разбирательство в других инстанциях. Пошла в общество защиты потребителей, взяла направление в торгово-промышленную палату на экспертизу и вечером поехала за сапогами. Оказывается, "ось" продолжала вращаться, и у тех, кто ее запустил, были большие надежды, что я сойду с орбиты. Сапог в магазине не оказалось, их решили отвезти на экспертизу и надо подождать еще дня четыре. Возник глупый вопрос: а где они были всю неделю? Вразумительного ответа не услышала.

Вот теперь сижу я в очередной выходной дома с явными признаками простуды и размышляю, пойти ли мне купить новые сапоги или подождать, пока земная ось изменит свой угол наклона и наступит обещаемое глобальное потепление, а всякие AXISы исчезнут за ненадобностью, как скрюченные и неприглядные стержни бенгальских огней после минутного сияния их фейерверка. Но, наверное, в ближайшую новогоднюю ночь никаких катаклизмов не произойдет, и поэтому созвучно строкам из известной песни Никитина, который полагает, что будет апрель и следует шить сарафаны из ситца, и все это будет носиться. Я же знаю, что апрель наступит не скоро, до этого будет еще январь и поэтому советую всем своим соотечественницам и соотечественникам покупать обувь более достойных производителей, чтобы она носилась.

**Инесса КОЗЛОВСКАЯ,**
**доцент кафедры математической физики Белорусского государственного университета.**

РАКУРС

# Вы еще вспомните Лукашенко!

*Как все-таки причудливы судьбы диктаторов! Меньше месяца назад мы видели, как веселится и ликует весь народ в Тбилиси по поводу отставки Эдуарда Шеварднадзе. В прошедшие выходные так же ликовали жители Багдада в связи с арестом Саддама Хусейна. И почти одновременно в Баку около двух миллионов людей вышли на улицы, чтобы проводить в последний путь еще одного восточного диктатора — Гейдара Алиева. Так хоронили Сталина. Таковы парадоксы истории. Вернее было бы сказать, ее гримасы.*

**Валерий КАРБАЛЕВИЧ**

Как известно, от великого и страшного до смешного и жалкого — всего один шаг. Каким великим и страшным казался Хусейн населению Ирака, когда выкрикивал угрозы в адрес своих врагов, демонстративно палил в воздух из винтовки, клятвенно обещал погибнуть в бою, ни в коем случае не сдаваться американцам (и призывал к этому всех иракцев). И каким жалким выглядит сейчас на телеэкране! У него не хватило мужества достойно умереть, хотя бы так, как сделали его сыновья. И теперь вне зависимости от того, кто и как его будет судить, он перестал быть кумиром для своих приверженцев. Создаваемый долгие годы образ сурового и непреклонного борца с врагами арабского мира рухнул в одночасье.

В политической судьбе диктаторов чрезвычайно важен заключительный аккорд, финал, время и способ ухода из истории. Гитлер и Сталин были кровавыми диктаторами. Причем если фюрер уничтожал другие народы, то "отец народов" воевал в основном со своим. Немецкое общество сегодня оценивает самого Гитлера однозначно негативно, а время его правления — как трагический период в своей истории.

В то же время оценка Сталина в постсоветском обществе, прежде всего в российском, далеко не однозначна. Споры о его исторической роли не утихают. Несмотря на все разоблачения, обнародование множества фактов архизлодейства, у "кремлевского горца" доныне немало приверженцев. В Москве издаются книги, прославляющие "великие заслуги" Сталина перед страной, время от времени на демонстрациях появляются его портреты.

Существует много причин такого различия в оценках. Но главная, на наш взгляд, состоит в том, что Гитлер ушел из истории проигравшим, а Сталин — выигравшим. Потому и был похоронен в мавзолее, при почти всеобщей искренней скорби народа. И пусть теперь историки доказывают, что большинство его побед обернулись поражениями для страны, перебить укоренившиеся стереотипы массового сознания не так просто. Победившие вожди символизируют силу и величие нации, а проигравшие — ее слабость и унижение.

Слободан Милошевич вряд ли войдет в пантеон национальных героев Югославии. Не только потому, что проиграл все войны, которые вел. Но и потому, что закончил бесславно: был свергнут в ходе народной революции и оказался на скамье подсудимых. В отличие от Броз Тито, который умер непобежденным.

Чувствовать историческое время, исчерпанность собственной роли в судьбе своего народа — великая политическая мудрость. Генерал де Голль добровольно ушел в отставку через год после проигранного референдума, не добыв до конца свой президентский срок. Потому и вошел в историю Франции как великий и почитаемый государственный деятель. Если бы он оставался на посту, когда популярность пошла на спад, то героический образ спасителя нации в массовом сознании оказался бы размытым.

У Шеварднадзе хватило политического чутья не доводить дело до трагической развязки и уйти в отставку в разгар кризиса. Поэтому, несмотря на многочисленные обвинения в его адрес, ему не понадобилось убегать из страны. Он войдет в ее историю не как преступник, а как один из основателей новой грузинской государственности.

Возвратимся теперь на нашу белорусскую почву. Все вышесказанное сегодня чрезвычайно актуально в связи с главной политической проблемой Беларуси: вопросом о третьем президентском сроке Лукашенко. Всем — и противникам, и сторонникам главы государства — очевидно, что пик его популярности и славы остался позади. Парабола рейтинга имеет необратимую тенденцию к спаду. Причин здесь много, в том числе и психологическая усталость людей от ежедневного присутствия одного человека на телеэкране в течение почти десяти лет.

Впереди Беларусь ждут нелегкие времена. Высокие темпы роста ВВП не вводят в заблуждение никого, включая членов правительства. Основные фонды изношены, а новых инвестиций в нужном объеме не видно даже на горизонте. И внешние факторы существования нынешней системы власти (отношения с Западом и Россией) с каждым годом ухудшаются. Нижняя точка падения еще впереди. И весь вопрос состоит в том, когда это случится и на кого будет возложена историческая ответственность. Причем необходимо отметить, что социальные катаклизмы ожидают страну и в случае консервации существующей модели, и в случае начала рыночных реформ.

Перед Лукашенко, как в древних былинах, два пути. Первый состоит в том, чтобы добыть свой нынешний срок и уйти. Оставлять преемника или нет — сейчас не принципиально. За три оставшихся года Лукашенко, пожалуй, удастся удержать ситуацию под контролем, избежать экономического обвала.

В этом случае после ухода Лукашенко оценка его роли в истории Беларуси будет неоднозначной. И преемники, и политические оппоненты выдвинут целый ряд политических обвинений. В учебниках истории Беларуси период его деятельности в основном, думаю, будет оценен негативно.

Однако в массовом сознании электората бывшего президента восприятие политики Лукашенко будет иным, особенно на фоне неизбежных рыночных реформ. А эти реформы на первом этапе, кто бы их ни проводил, вызовут безработицу, сокращение социальных расходов государства, имущественное неравенство, социальную борьбу, острые политические конфликты и прочее.

На контрасте с этими бурными преобразованиями период правления Лукашенко будет выглядеть как эпоха стабильности, социального равенства и справедливости, почти всеобщей занятости, регулярных выплат зарплат (пусть и маленьких).

И пускай высоколобые экономисты объясняют: дескать, реформы оказались потому такими болезненными, что Лукашенко затянул с их началом, довел ситуацию до предела, и за это приходится расплачиваться. Поверят далеко не все. Ибо простые люди больше доверяют своему восприятию. А разбираться в экономических процессах и их последствиях — это для обывателя слишком сложно.

Вспомним один эпизод недавней российской истории. Виктор Черномырдин был отправлен в отставку с поста премьера за несколько месяцев до печально знаменитого дефолта августа 1998 г. и избежал политической ответственности за эту финансовую катастрофу. Хотя именно политика его правительства привела к такому развитию событий. Однако своевременный уход вывел Черномырдина из-под удара и позволил вновь баллотироваться на должность премьера после отставки Сергея Кириенко. Правда, второй приход во власть не удался, но это уже совсем другая история.

Конечно, есть опасность, что Лукашенко попытаются предъявить не только политические, но и уголовные обвинения, в частности — по поводу исчезновения политиков. Однако в этом случае можно доказать, что во всем виноваты совсем другие люди...

Второй путь. Лукашенко проводит референдум об изменении Конституции, затем в 2006 году побеждает на новых президентских выборах. При полном контроле над избирательным процессом эта задача вполне решается.

И вот здесь мы увидим, как триумф с неотвратимой исторической неизбежностью превратится в трагедию. Грядущий экономический обвал похоронит под собой все остатки народного доверия. При этом не так уж важно, будет Лукашенко пытаться во что бы то ни стало сохранить нынешнюю экономическую систему или попробует начать реформы, сыграв роль белорусского Егора Гайдара. Парабола дойдет почти до нулевой отметки. Исторический маятник, достигнув своей крайней точки в 1994 г., симметрично качнется в противоположную сторону. Именно тогда президент в полной мере почувствует, что от любви до ненависти совсем недалеко. И разногласий в оценке его исторической роли почти не будет.

Таким образом, выбор у Лукашенко не так уж велик. Или оставить пост через три года, частично сохранив в народной памяти образ народного вождя. Или держаться до упора, следуя логике, которую выразила Феодора, жена византийского императора Юстиниана: "Пурпур власти есть лучший саван!".

*("Белорусские новости".)*

## Ці стане «Веснік БДУ» нацыянальным выданнем?

Навукова-тэарэтычны часопіс "Веснік БДУ" разлічаны як на навукоўцаў, так і на масавага чытача. Але што ж убачыць чытач гэтага, здавалася б, apriori нацыянальнага выдання? З горыччу і недаўменнем будзе яго гартаць, не знаходзячы адказу на неадчэпнае пытанне: чаму 1-я і 2-я серыі часопіса (прыродазнаўчая тэматыка) выдаюцца выключна на рускай мове, а ў нумарах наступных серый (грамадскія і філалагічныя навукі) на роднай мове толькі каля 10 працэнтаў артыкулаў?

Фактычна, ігнаруючы родную мову, часопіс заняў антыдзяржаўную пазіцыю, скіраваную супраць нацыянальных інтарэсаў нашага народа.

На мой погляд, рэальны стан спраў у "Весніку" тлумачыцца "творчым" патэнцыялам кадраў часопіса, дзе ніводны супрацоўнік не мае вучонай ступені. Дагэтуль часопіс узначальвае не вельмі, па-мойму, грунтоўна падрыхтаваны для гэтага чалавек. А Беларусь жа, вядома, багатая на таленавітых людзей, прыдатных плённа працаваць у беларускім друку. На жаль, для "Весніка БДУ" іх не знайшлося...

Лічу, што ў наш час, калі Беларусь ужо незалежная дзяржава і нашай інтэлігенцыі перш за ўсё трэба дбаць пра сапраўднае адраджэнне беларускай культуры і мовы, "Веснік БДУ" абавязкова павінен стаць нацыянальным выданнем.

**Пётр БАРАНОЎСКІ,**
**член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Дзеяслоў» — новае слова ў беларускай літаратуры

У кнігарнях Мінска з'явіўся чарговы нумар часопіса "Дзеяслоў". Ужо шосты. Так, шосты, хоць з часу стварэння новага выдання прайшло ўсяго крыху больш за год... Першы — пілотны — нумар "Дзеяслова" выйшаў у верасні мінулага года як альтэрнатыва "прыхватызаваным" дзяржавай літаратурна-мастацкім часопісам "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", "Нёман"... Як памятаеце, тады адбылася "касцянізацыя" беларускай літаратуры: быў створаны гэтак званы "холдынг", звольненыя з пасадаў усе галоўныя рэдактары названых выданняў, а большасць супрацоўнікаў сышлі з працы ў знак пратэсту.

Сёння ўжо можна сказаць, што збыліся найгоршыя прагнозы: выданні холдынгу сталі цалкам падцэнзурнымі, і як вынік — страцілі сваіх пастаянных аўтараў і падпісчыкаў, губляюць аўтарытэт і наклады. А часопіс "Крыніца", які лічыўся элітарным і друкаваў лепшыя творы беларускай літаратуры і пераклады замежных аўтараў, увогуле ператвораны ў расійскамоўны "Славянскі свет"...

"Дзеяслоў" паўстаў як незалежны літаратурна-мастацкі часопіс на руінах той жа "Крыніцы" ды іншых раней шаноўных выданняў. Усё лепшае, што з'яўляецца сёння ў Беларусі, друкуецца ў "Дзеяслове". За мінулы год выключна ў "Дзеяслове" змяшчалі свае творы Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Віктар Казько, Анатоль Кудравец, Леанід Дранько-Майсюк ды іншыя нашыя слынныя літаратары. Не выключэнне і шосты нумар. У ім друкуюцца сёлетнія запісы Янкі Брыля "Лясцела зязюля", пачатак аповесці Віктара Карамазава "Чырвоная брама", проза Вінцэся Мудрова, Сяргея Астраўца, Міры Лукшы, паэма Алеся Бадака "Ра", вершы Адама Глобуса, Казіміра Камейшы, Леры Сом, Аксаны Данільчык... У рубрыцы "Пераклады" змешчаная навела лаўрэата Нобелеўскай прэміі Уільяма Голдынга, а таксама вершы паэтэсы, якую называлі Нясвіжскай Сапфо — Францішкі Уршулі Радзівіл. Багаты раздзел эсэістыкі і крытыкі, дзе друкуюцца гутарка Святланы Алексіевіч са знакамітым вучоным Полем Вірыльа "Радыеактыўны агонь, альбо Чаму досвед Чарнобылю ставіць пад сумнеў нашае бачанне свету", эсэ Анатоля Бутэвіча "На пачатку было Слова. І слова было — Беларусь", якое мае падзагаловак "Рэфлексія спасціжэння Радзімы", артыкул украінскай паэтэсы Ліны Кастэнка "Гуманітарная аўра нацыі, альбо Дэфект галоўнага люстэрка" (аб праблемах станаўлення ўкраінскай нацыі сёння, якія так актуальныя і для Беларусі і беларусаў), скандальна нашумелыя дзённікавыя запісы Вячаслава Адамчыка "Адзін месяц 2000-га года", якія пісьменнік, што нядаўна пайшоў з жыцця, рабіў шчыра, нібыта не для друку, артыкул мастацтвазнаўцы Пятра Васілеўскага "Чалавек эпохі нашага Адраджэння" (пра мастака Льва Талбузіна, аўтара першага эталону Дзяржаўнага герба Беларусі "Пагоня") і іншае. Напрыканцы нумару, у рубрыцы "Інтэртэкст", крытык Ірына Шаўлякова знаёміць чытачоў з навінкамі беларускай літаратуры — новымі выданнямі, кнігамі, найцікавейшымі публікацыямі апошніх месяцаў.

А на падыходзе ўжо і сёмы нумар "Дзеяслова", у якім будзе надрукаваная аповесць Васіля Быкава "Афганец", напісаная ў 1998 годзе, перададзеная часопісу ўдавой класіка беларускай літаратуры Ірынай Міхайлаўнай Быкавай. У гэтым нумары друкуецца таксама проза Ніла Гілевіча, Віктара Карамазава, маладых аўтараў Югасі Каляды, Лявона Юрагі, Глеба Лабадзенкі, новыя вершы Генадзя Бураўкіна, Міхася Скоблы, Эдуарда Акуліна, пераклад "Рымскага трыпціху" Папы Рымскага Яна Паўла II, зроблены Рыгорам Барадуліным, навела самай папулярнай сёння ў Польшчы пісьменніцы Вольгі Такарчук "Прачынайся, ты забіты", крытычныя артыкулы Юрася Барысевіча, Ганны Кісліцынай, Уладзіміра Сіўчыкава, Дзмітрыя Серабракова і іншых.

Нагадваем, што набыць часопіс можна ў мінскіх кнігарнях, а на наступны год варта падпісацца на яго з дапамогай ТАА "Эй Бі-ПрэсСэрвіс", якое ўключыла "Дзеяслоў" у свой каталог падпіскі. Калі вы жадаеце, каб у наступным годзе часопіс сам прыходзіў да вас — патэлефануйце ў ТАА "Эй Бі-ПрэсСэрвіс". **Тэлефоны ў Мінску: 223-44-52, 226-87-99, 222-27-20**. Прыемнага вам чытання!




*На мінскім Жаночым АўтаСалоне. 17 снежня 2003 г.*

Фота ByMedia.net

## «Нейра Дзюбель» выпускае «коміксы»

*У канцы снежня беларускі гурт "Нейра Дзюбель" выпусціць альбом рэміксаў пад назвай "Коміксы". У яго ўвойдуць 16 новых версій ужо вядомых песень і адна новая кампазіцыя. Увесь матэрыял для дыска быў запісаны самімі музыкантамі "Нейра Дзюбеля" разам з Паўлам Юрцэвічам і Ігарам Плевіным (студыя "Osmos") — людзьмі, пакуль мала вядомымі ў музычных колах.*

Паводле слоў лідэра калектыву Аляксандра Кулінковіча, праца была творчай. "Натуральна, за аснову браліся зыходнікі старых запісаў, але дастаткова шмат усяго дапісвалі зверху". У песні "Гумовы дом" я нават куплет дасачыніў", — сказаў ён. Некаторыя песні дыска моцна адрозніваюцца ад арыгіналу, іншыя — не вельмі, так што звыклым тэрмінам "рэміксы" назваць гэты дыск музыканты не адважыліся, а таму прыдумалі новы музычны тэрмін — "коміксы". Што да гучання, то яно танцавальнае, але пераважна рокавае. У плане падыходу можна правесці аналогію з рэміксам песні "Зорачкі", зробленым тры гады таму.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

